Цана нумару 15 гр.

# ЗОЛАК

ОРГАН МАЛАДОЙ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ДУМКІ

Год III Вільня, Сьнежань 1935 № 1 (6)



## АД РЭДАКЦЫІ

Пасьля больш чым гадавога перарыву „Золак“ ізноў пачынае выходзіць, ізноў пачынае нясьці шырокім працоўным масам належнае разуменьне беларускага вызвальна-адраджэнскага руху.

Што-ж змусіла „Золак“ да гэтак доўгага маўчаньня? Адказ кароткі: брак матэрыяльных сродкаў. І ў гэтым няма нічога дзіўнага, бо часопісь выдаецца за кроўна запрацаваныя грошы невялікай групы людзей, якія ў пераважнай большасьці або безработныя, або калі і маюць такую-сякую працу, мала адрозьніваюцца ад безработных, бо працуюць нястала і малазыскоўна. Цяжкі і няпэўны матэрыяльны стан выдаўцоў „Золака“ з выхадам яго апошняга нумару (5) ў мінулым годзе настолькі пагоршыўся, што рэдактар яго змушаны быў уцякаць з Вільні ў сваю паўгалодную вёску, каб адпыўшы там ад усьціску прыязных абоймаў гораду, ізноў вярнуцца да перарванай працы. І „Золак“ выходзіць.

Для чытача можа быць незразумелым дзеля чаго вядзецца такое зацятае змаганьне за жыцьцё гэтак беднае часопісі, калі побач існуе рэгулярная і забясьпечаная беларуская прэса. Мамэнт гэты вельмі важны, каб моўчкі памінуць яго. Пастараемся-ж яго выясьніць, бо-ж гэта будзе адначасна выясьненьнем і тых аснаўных розьніцаў, якія існуюць у сучасным беларускім руху.

У апошнія годы ў беларускім руху вялося і вядзецца „хаданьне“ за сваю рацыю быту паміж хадэцыяй і палянафіламі. Уся моц гэтых кірункаў палягае толькі ў іх палітычных арыентацыях і толькі дзякуючы арыентацыям маюць яны рэгулярную прэсу. Часопісь-жа „Золак“ арыентуецца не на чужацкую якую-небудзь сілу, а толькі на свой працоўны народ. Для нас ясна, што пры арыентацыях прыходзіцца ў першую чаргу дбаць аб інтарэсах таго, на каго арыентуешся, прыходзіцца пераконваць свае народныя масы, што гэтыя інтарэсы ідуць якраз па лініі інтарэсаў тых жа мас. Гэта-ж ня так яшчэ даўно „Беларуская Крыніца“ даказывала беларусам, што „было-б пажадана, каб Літва дастала з Вільняй магчыма найбольшую беларускую тэрыторыю, што сяньня знаходзіцца ў граніцах Польшчы“..

(№18 з дн. 22.IV. 1934 г.) Палянафілы-ж яшчэ прасьцей падыходзяць да справы: яны яе вядуць так, як гэтага хочуць іхнія хлебадаўцы.

Праўда, быў раней яшчэ адзін кірунак грамадзка-палітычнай думкі, гэта „грамадаўскі“, аднак і ён у сутнасьці нічым не адрозьніваўся ад першых двух, бо таксама арыентаваўся на аднаго з нашых суседзяў, а іменна — на Саветы.

„Золак“ ёсьць рашучым і пасьлядоўным ворагам розных гульняў у арыентацыі. Ён напружвае свае сілы для таго, каб арганізаваць беларускую грамадзкую думку супраць тых чужацкіх уплываў, якія шырыліся дый шырацца праз беларускую прэсу. Мы перакананы, што не сягоньня — заўтра, а такая грамадзкая апінія вытварыцца і пакажа ўсім нашым „філам“ належнае мейсцэ. Гэта бязумоўна мусіць стацца, бо-ж жывы народ не павінен дацца, каб яго праз яго-ж уласную прэсу разьдзіралі чужацкія крумкачы.

Было-б аднак памылкай думаць, што „Золак“ абмежываецца адною толькі барацьбою з чужацкімі уплывамі, якія шырацца праз беларускую прэсу. Не! Галоўным заданьнем „Золака“ ёсьць пашырэньне і ўмацаваньне ў нашым грамадзянстве засадаў сацыялізму, бо мы пера кананы, што толькі сацыялізм можа задаволіць патрэбы і жаданьні нашага працоўнага народу.

Апрача ўсяго, само існаваньне „Золака“ ёсьць паказальным для нашага грамадзянства і з іншага яшчэ боку. Выхад „Золака“ наочна даводзіць, што для існаваньня беларускага друкаванага слова неабавязкова ёсьць патрэбным арыентаваньне на каго-небудзь звонку а хопіць адно толькі моцнага жаданьня і крыху ахвярнасьці сяброў грамадзянства. Калі-б на тых засадах, на якіх існуе „Золак“, стала ў свой час усё сьведамае беларускае грамадзянства, дык у нас былі-б цяпер ня толькі худасочныя часопісі літоўскай і польскай арыентацыі, але была-б і незалежная штодзенная прэса, свае каапэратывы, свае бібліятэкі-чытальні і іншыя арганізацыі як чыста эканамічныя, так і грамадзка-палітычныя.

Маемо надзею, што гэткі зварот у нашай сапраўднасьці не за гарамі!..

---

## Справа адзінага беларускага фронту

Палажэньне беларускіх працоўных масаў Заходняй Беларусі ёсьць вельмі цяжкім і ў многім яно нічым не адрозьніваецца ад палажэньня якога-небудзь каляніяльнага народу. Каб абараніць свае правы, дабіцца зьдзейсьненьня іх, трэба каб усе жывыя сілы беларускага народу як найцясьней аб'ядналіся.

Сёньня справа аб'еднаньня ў нас стаіць на парадку дня і паста ўлена яна, як гэта ня дзіўна, Камуністычнай Партыяй Заходняй Беларусі, партыяй, якая да гэтага часу ставілася варожа бяз усякіх засьцярог да ўсіх іншых партыяў і групаў, якія ня былі камуністычнымі, або ня былі пад беспасрэдным яе уплывам. Найцікавей аднак

тое, што К.П.З.Б. працягвае руку супрацоўніцтва нікому іншаму як беларускай хадэцыі, але тая ад гэтага супрацоўніцтва адмаўляецца. Да паразуменьня не дайшло і гэтага можна было спадзявацца, бо ў Зах. Беларусі існуючыя беларускія арганізацыі ніколі ня могуць паміж сабою пагадзіцца.

Прыпомнім сабе толькі выбары ў Сойм у 1930 г., калі для памыснага правядзеньня выбарнай акцыі патрэбна было хоцьбы на кароткі час аб'яднацца і калі з такою прапазыцыяй ў ролі ініцыятара выступілі беларускія хадэкі. Хадэкі тагды запрапанавалі палянафільскай групе Луцкевіча, Астроўскага і Акінчыца аб'яднацца з імі для выбарнай акцыі. Апошняга дамагаліся ад палянафілаў на'т іх сябры на мяйсцох. Гэтак вядомым ёсьць, што з Наваградка прыяжджаў да Луцкевіча і К° дэлегат з ультыматыўным даманьнем утварэньня супольнага фронту з хадэцыяй на час выбараў. Дамаганьне ўзапраўды было прыкрым: ня было ніякіх прычын адмаўляцца ад часовага супольнага фронту, але не магло быць аднача сна і дазволу на гэткі фронт. Выхад быў знайдзены ў контр-дамаганьні — сарваньня кааліцыі хадэкаў з украінцамі, хоць для кожнага было ясным, што кааліцыя з украінцамі ў значнай меры спрыяла памыснаму выхаду з выбараў для слаба палітычна-арганізаваных беларусаў. Відавочна палянафілам зусім не залежыла на здабычах палітычнага характару, як не залежыць ім, мусіць, наагул на ўмацаваньні і разьвіцьці беларускага руху.

Калі не маглі паразумецца на'т на кароткі час блізкія паміж сабою хадэкі з палянафіламі, дык што-ж тагды гаварыць аб шырэйшым і доўгатрывалейшым паразуменьні іх з камуністамі?!.. Зразумела, што паміж гэтымі групамі (К.П.З.Б., хадэкамі, палянафіламі) ня можа быць ніякай супольнай акцыі, бо да гэтага не дапускае самы характар гэтых арганізацый, іх мэтаімкненьні, іх тактыка.

Ад палянафілаў, якія кіруюцца засадай — „скачы ўража, як пан кажа" ня вельмі далёка адыходзяць і хадэкі. Аднак мусіма сьцьвердзіць, што хадэкі зьяўляюцца найбольш самастойным угрупаваньнем спасярод іншых, каторыя сягоньня заангажаваны ў палітычнай дзейнасьці на беларускім грунце. Праўда, датуль маюць хадэкі свой самастойны пагляд і падыход да справы, пакуль беларуская справа не ўваходзіць у супярэчнасьць з сучаснай палітыкай літоўскай. Там-жэ, дзе беларускія інтарэсы разьмінаюцца з літоўскімі, хадэкі або дыплёматычна маўчаць, або выразна станавяцца на літоўскі бок (бач №18 „Бел, Кр." з 1934 г.).

Ня менш знаным на беларускім грунце ёсьць і новы контрагэнт „супольнага фронту" — К.П.З.Б. Пэўна мала хто можа быць больш думным з свае дзейнасьці ў Заходняй Беларусі, чымся КПЗБ. Але дзіўнае зьявішча — даволі было гэнай партыі з усей шчырасьцю спрычыніцца да ажыўленьня дзейнасьці ТБШ, як гэтае Т-ва чамусьці спараліжавалася й разваліласяі, даволі было ёй ахунуцца на-

строямі незадаваленьня беларускіх працоўных масаў існуючым парадкам рэчаў і пастарацца выклікаць сярод іх саветафільскія сымпатыі, каб настроі незадаваленьня апалі. Магчыма, што ўсяго гэтага ня было-б, калі-б беларускі рух бліжэй абыходзіў кіраўнікоў КПЗБ, калі б яны былі з гэтым рухам зьвязаны арганічна, а ня службова, калі-б спасярод іх былі беларусы. Аб гэтым-жа добра сьведчыць і тое, што, калі ў грамадаўскай справе савецкай дыпляматыі патрэбна было ўмыць рукі, дзеля чаго КПЗБ была адарвана ад Камуністычнай Партыі Беларусі з цэнтрам у Менску і прылучана да Польскай Кампартыі, — дык супроць гэткай ператасоўкі сярод КПЗБ ніхто ані загікнуўся з пратэстам.

З усяго гэтага вынікае, што як бел. хадэцыя, КПЗБ, так і бел' палянафілы ня ёсьць чымсь самастойным, а толькі прыдаткамі палітыкі літоўскай, савецкай, або польскай. Як прыдаткі, яны з уласнай волі ня могуць ані аб'еднывацца, ані разьеднывацца, а толькі з дазволу сваіх патронаў. Таму справа адзінага беларускага нац. фронту магла-б тагды зрэалізавацца, калі-б існавалі беларускія ўзапраўды незалежныя грамадзка-палітычныя арганізацыі.

У нашых умовах прыходзіцца толькі сьцьвердзіць адсутнасьць незалежных грамадзка-палітычных арганізацый, а гэтым самым і праблематычнасьць беларускага адзінага фронту. Апрача ўсяго іншага ў гэткім стане рэчаў не малую ролю адграе і нязжытая яшчэ наша нявольніцкая псыхіка. За малымі выключэньнямі, нявольнік заўсёды шчырэй дбаў аб інтарэсах свайго пана, чым сваіх уласных. Што гэткая псыхіка існуе на‘т і сярод „барацьбітоў“ за правы рабочай клясы, найлепшым прыкладам можа быць цяперашні ініцыятар утварэньня агульна-беларускага фронту ў Зах. Беларусі — КПЗБ. КПЗБ, як вядома, аднэй з перадумоваў утварэньня супольнага фронту ставіць справу спыненьня крытычнага адношаньня да Саветаў. Значыць — з аднэй стараны прапануецца замоўчваньне прыкрываньне гнёту й несправядлівасьці, што чыніцца над працоўным чалавекам, над цэлымі народамі ў краіне „будуючагася сацыялізму“ а з другой стараны вымагаецца барацьбы з гвалтам і несправядлівасьцью ў буржуазным краі?!. Згадзіцца на дамаганьне камуністаў, — гэта значыць, у нашых географічна-палітычных умовах ліць самахоць ваду на іх млын. Сумлiўна, каб хто-небудзь пайшоў на гэткую ролю!

Ня гледзячы аднак на сумны стан беларускіх арганізаваных сілаў, усе, хто спачувае ідэям „Золака“, усе мы уважаем неабходнай супольную барацьбу з гнётам і несправядлівасьцю, усе мы гатовы ісьці разам нага ў ногу з тымі, хто змагаецца за справу узапраўднай свабоды й сацыяльнай справядлівасьці, бо толькі супольнымі зусільлямі арганізаваных працуючых масаў можна дабіцца памысных вынікаў у гэнай барацьбе.

Р. К.

# Самаарганізацыя працоўнага народу

(працяг)

У рэчаістасьці існуе шэраг розных формаў узаемачыннасьці. Іх можа быць вагромністае мноства — столькі, сколькі існуе розных акцый і рэакцый, або, інакш кажучы, сколькі існуе розных спосабаў міжлюдзкіх стыкаў і ўзаемаадносін.

Усё вагромністае мноства розных формаў узаемачыннасьці можна падзяліць на дзьве аснаўныя групы: простыя і складныя, непасрэдныя і пасрэдныя.

Непасрэдныя формы ўзаемачыннасьці,—калі стыкі і ўзаемаадносіны адбываюцца ў выніку непасрэднае чыннасьці органаў цела. Узаемнае сьцісканьне рук, пацалунак, рухі галавы ад зьдзіўленьня, выраз аблічча (міміка), сьціснуты кулак дзеля пагрозы, — усё гэта ёсьць непасрэдныя, простыя формы ўзаемачыннасьці.

Але складныя формы ўзаемачыннасьці амаль заўсёды бываюць пасрэдныя. Наяўна гэта выяўляецца, калі стыкі і ўзаемаадносіны адбываюцца паміж людзьмі ня ў спосаб непасрэднае дзейнасьці органаў цела, а ў спосаб ужываньня і выкарыстоўваньня розных рэчаў, прыладаў, умоўных знакаў, сымбалчў, нават жывых бытасьцяў; напрыклад: запалкі (вядомы зварот: дайце прыкурыць!), таксама папяроса (ці ня маеце закурыць?); узаемнае ліставаньне кнігі, часопісі, жывая мова (асабліва на сходах і зьездах, калі прамоўца ўжывае іншых словаў і зваротаў, чымся ў звычайнай гутарцы); бел-чырвона-белы сьцяг, як беларускі нацыянальны сымбаль; тэлефон і тэлеграф, як спосабы зносін; ужываньне галубоў да паштовых зносін, нават людзей — пасыльныя, разносчыкі, розныя прадстаўнікі і г. д.

Усе гэтыя рэчы і прылады, умоўныя знакі, сымбалі, жывыя бытасьці, якія ўжываюцца ў стыках і ўзаемаадносінах паміж людзьмі, называюцца пасрэднікамі ці-то фактарамі ўзаемачыннасьці. Іх можа быць вагромністае мноства; тым больш іх бывае, чым на вышэйшай ступені разьвіцьця стаіць суспольства.

Паводле зьместу — ці-то мэтазгоднасьці — усе спосабы ўзаема-

чыннасьці можна таксама падзяліць на дзьве аснаўныя групы: да сябе і ад сябе. Усё тое, што прыемна узварушае, што спрыяе існаваньню — да сябе; а ўсё тое, што няпрыемна ўзварушае, што шкодзіць існаваньню — ад сябе. Інакш кажучы: усё вагромністае мноства розных спосабаў міжлюдзкай узаемачыннасьці можна падзяліць на ўзаемна-спрыязьлівыя і на ўзаемна-варожыя, на салідарыстычныя і антаганістычныя.

Паводле трываласьці, ці-то ў часе, усе спосабы ўзаемачыннасьці таксама могуць быць дваякія: або дачасныя, кароткатэрміновыя, мімалётныя, або — сталыя, доўгатэрміновыя, трывалыя.

Пытаньне аб тым, дзеля чаго людзі ўваходзяць ў стыкі і ўзаемаадносіны, з чаго ўзьнікаюць розныя спосабы ўзаемачыннасьці, гэтае пытаньне з даўнейшых часаў займае увагу дасьледчыкаў людзкога суспольства. У сацыялёгічнай літаратуры існуе шэраг адказаў, шэраг розных паглядаў, падаюцца розныя высьвятленьні тых прычын ці-то суспольных чыньнікаў, якія ўплываюць на паступоўваньне людзкіх асабістасьцяў у самоце і ў суспольстве, пры ўстанаўленьні тых ці іншых стыкаў і ўзаемаадносін.

Але няхай кожны сам уважліва паўзіраецца на сябе, на сваю дзейнасьць, няхай прыпомніць сабе ўсе тыя здарэньні, калі ён уваходзіў ў стыкі і ўзаемаадносіны з іншымі людзьмі, няхай ён шчыра прызнаецца, няхай адкажа на рубам пастаўленае пытаньне: якая сіла змушала яго ўваходзіць ў тыя ці іншыя стыкі і ўзаемаадносіны?

Няма сумліву, — каб нехта зрабіў такую анкету, дык атрымаўбы розныя адказы. Але нельга сумлівацца і ў тым, што ў аснове іх была-б адна-адзіная праўда: людзі таму ўваходзяць у стыкі і ўзаемаадносіны паміж сабою што фактам свайго нараджэньня змушаны жыць у суспольстве (спачатку ў сям'і, потым радня, суседзі, блізкія і далёкія сваякі, знаёмыя). Толькі ў суспольстве і праз суспольства людзі могуць жыць і разьвівацца, з найбольшаю удачаю зьдзейсьяць уроджанае імкненьне да захаваньня і прадоўжаньня свайго жыцьця.

Гэта натуральнае імкненьне чалавека да захаваньня і прадоўжаньня свайго жыцьця мы называемо інстынктам.

Інстынкт сябезахаваньня — вось тая магутная сіла, якая змушае людзей уваходзіць у ўзаемаадносіны між сабою, устанаўляць тыя або іншыя формы ўзаемачыннасьці.

Пры гэтым трэ‘ мець на увазе, што інстынкт сябезахаваньня свомы ўсім жывым істотам, пачынаючы ад амэбы і канчаючы людзьмі, зьяўляецца магутнай сілаю, якая стыхійна вынікае з нетраў прыроды, стаіць на рубяжы, паміж неарганічнымі і біолёгічнымі зьявамі з аднаго боку, а біолёгічнымі і псыхічнымі зьявамі з другога. Злучае ў адну суцэльнасьць прыроду неарганічную, арганічную і цывілізацыю. Тое, што ў прыродзе неарганічнай носіць назоў закона гравітацыі або ўзаемнага прыцяганьня фізычных целаў, закона інэрцыі або захаваньня энэргіі, ў арганічнай прырозе — закон жыцьця або інстынкт сябезахаваньня. Усьвядомлены інстынкт — воля да жыцьця як наўмысная і ўсьвядомленая дзейнасьць ня толькі захаваньня і прадоўжаньня, але і ўдасканаленьня жыцьця, — зьяўляецца аснаўным і галоўным чыньнікам ўзьніку цывілізацыі або культуры.

(д. б.) Т. Г.

---

# ДЗЯРЖАЎНЫМ ШЛЯХАМ

(З нагоды 15-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня)

Існуе пагляд, што славянскія народы ёсьць няздольнымі да дзяржаўнага будаўніцтва. Для угрунтаваньня гэтага пагляду асабліва шмат зрабілі немцы, хоць ня мала прыхільнікаў яго было і сярод самых славянаў. Вядомы рускі анархіст Бакунін уважаў, што славяне ўжо па сваёй натуры ёсьць антыдзяржаўнікамі, анархістамі, а Расію-ж называў не славянскай дзяржавай, а проста „кнута-германскай імпэрыяй“. Узьнік пасьля сусьветнай вайны новых славянскіх дзяржаваў (Польшча, Чэхаславаччына) хоць быццам і пярэчыў цьверджаньням аб антыдзяржаўніцтве славянаў з аднаго боку, дык з другога затое пацьвярджаў, калі прымем пад увагу прыход да ўлады ў Расіі камуністычнай партыі. Побач з рускім Ленінам кіраўнічы апарат Расіі складаецца з розных інародцаў, як Сталін, Троцкі, Зіноўеў, Дзяржынскі і ш. інш. На некарысьць дзяржаўна-творчых здольнасьцяў славянства сьведчыць і той факт, што пасьля развалу старой расійскай імпэрыі спасярод прыгнечаных ёю славянскіх народаў

толькі адны палякі здабыліся на сваю дзяржаву, тагды як іншыя — беларусы і украінцы — і надалей засталіся дадаткамі да чужых сацыяльна-палітычных і культурных арганізмаў.

Закід аб няздольнасьці да дзяржаўнага будаўніцтва асабліва часта ставіцца нам беларусам, якія, маўляў, ня мелі ў мінуўшчыне свае дзяржавы, як і ня маюць імкненьняў да стварэньня яе ў сучаснасьці. Для каротказорага чалавека гэткія цьверджаньні на першы пагляд здаюцца зусім пераконваючымі, а гэта тымбольш, што наша бацькаўшчына ў мінулым ня слыла пад назовам Беларусі. Ня будзем дашуквацца, дзеля чаго гэтак сталася, — гэта справа гісторыкаў, — зазначымо аднак, што беларусы ў свой час былі народам дзяржаўным. Нажаль, так няспрыяюча склаліся для нас абставіны, што ўсё наша гістарычнае мінулае, пачынаючы на'т ад самае назовы (Літва), падменена й прысвоена чужынцамі. І як гэта ня дзіўна, а сёньня мы мусім адваёўваць сваю мінуўшчыну, калі хочам яе мець!

Калі мы ня можам адказываць да пэўнай меры за сваю мінуўшчыну, дык затое цалком мусім адпавядаць за сучаснасьць: мы — тварцы яе. Чым-жа можна вытлумачыць той факт, што ў 1917-18 г. г., пасьля развалу старой расійскай дзяржавы, мы ня здолелі збудаваць сваю? У кожным выпадку нельга толькі апраўдвацца нястачай спрыяючых умоваў, бо ў той час, у час поўнай анархіі, ня будаваў свае дзяржавы толькі той, хто яе мець не хацеў! Мусімо прызнаць, што ў гэтыя пераломныя годы ў жыцьці паняволеных народаў Усходу Эўропы беларусы не здабыліся на належную актыўнасьць, ня выявілі нязломных жаданьняў да будаваньня свае дзяржавы. У гэтым ляжыць увесь наш трагізм — заместа быць ужо падрыхтаванымі да чыннага выкарыстаньня спрыяючых абставінаў 1917-18 г. г., мы змаглі толькі распачаць гэтыя падрыхтаваньні. І, ясна, спазьніліся, мусілі спазьніцца, бо носьбітамі нацыянальных адзнакаў у той час былі толькі ніжэйшыя мала-культурныя слаі насельніцтва Беларусі, а больш культурная рэшта заставалася нацыянальна чужою. Цёмнаму нашаму селяніну цяжка было зразумець увесь сэнс маменту, зразумець, што надыйшоў час, калі можна, ўрэшце, замкнуцца ў свой дзяржаўны панцыр, каб у будучыні ізноў не папасьці ў каляніяльную залежнасьць ад другіх народаў. Да гэтага цёмны народ ня мог дадумацца. Дый пашто было думаць і клапаціцца яму, калі ў гэты самы час з аднаго боку, на захадзе, будавалі свае дзяржавы вызваліўшыяся народы, як латышы, літоўцы, палякі, а з другога, на ўсходзе, прыйшлі да ўлады найлявейшыя сацыялісты, якія абяцалі стварыць рай на зямлі. З усіх бакоў можна было пачуць запэўненьні ў братэрстве і добразычлівасьці, дык пры такіх умовах сялянскія масы маглі ча-

кацьдля сябе палёгкі, але ў жадным выпадку ня новых кайданоў няволі. Аднак ужо на самым пачатку ідылічных спадзяваньняў прышлося перадусім нашаму селяніну адчуць жорсткую руку сваіх суседзяў, у выніку чаго распачалася барацьба за вызваленьне ад чужацкае апекі, наʻт больш таго — праявіліся спробы будаваньня свае ўласнае дзяржавы.

Асабліва яскрава аб гэтым сьведчыць Слуцкае Паўстаньне ў лістападзе—сьнежні 1920 г., ў якім прымала ўчасьце ўсё здольнае насіць зброю насельніцтва Случчыны. З усіх тагачасных паўстанчых рухаў на Беларусі, толькі адно Слуцкае Паўстаньне ясна паставіла мэтаю свайго змаганьня Вольную і Незалежную Беларускую Дзяржаву. Вызначаецца яно й тым, што было праявай волі й жаданьняў ня толькі азброеных змагароў-паўстанцаў, але ўсяе Случчыны, бо вялося згодна з фармальнай пастановай усяго яе жыхарства. Паўстаньне распачалося па загаду Рады Случчыны, якую выбраў і якой даручыў выкананьне свае волі Зьезд Случчыны, што адбыўся 14—15 лістапада 1920 г.

З Паўстаньнем Случчыны салідарызавалася тагды ўся Беларусь.*) Да паўстанцаў Случчыны прысылалі сваіх прадстаўнікаў роз-

---

*) Трэба адзначыць, што бел. арганізацыі ў Зах. Беларусі салідарызаваліся з Паўстаньнем ня ўвесь час. Гэтая салідарнасьць была толькі падчас трываньня самога Паўстаньня і з год пазьней, бо яшчэ першыя яго угодкі адбыліся пры удзеле ўсіх арганізацый, за выключэньнем, зразумела, камуністаў. Пасьля памяць аб ім як-бы заглохла ў віры ўзаемнае грызьні і выплывае ізноў з прыездам у Вільню гр. Бусла. Характэрна, што калі гр. Бусел закрануў справу сьвяткаваньня 10-х угодкаў С. П. ў Бел. Студ. Саюзе, дык аказалася, што бел. студэнты аб гэтым факце нічога абсалютна ня ведалі. І калі сярод моладзі факт аружнае барацьбы за зьдзейсьненьне беларускіх ідэалаў выклікаў зацікаўленьне і зычлівасьць да справы наладжаньня сьвяткаваньня, то зусім нэгатыўна паставіліся „правадыры“. Толькі праз год павялося гр. Буслу з моладзьдзю наладзіць сьвяткаваньне 11-х угодкаў. Пачынаньні гэтыя белар. прэса сустрэла моўчкі. Палянафільскі „Беларускі Звон“ наагул прамаўчаў факт сьвяткаваньня, а „Бел. Крыніца“ змагла ў сябе занатаваць, што да Паўстаньня адносіцца „з рэзэрвай“. І толькі пасьля таго, як аб Слуцкім Паўстаньні загаварыла мяйсцовая польская прэса, „Б. Крыніца„ змушана крышку ласкавей загаварыць аб ім. Бязумоўна, іншае было-б адношаньне нашых дамарошчаных палітыкаў да Слуцкага Паўстаньня, калі-б яны прыймалі ў ім удзел, бо-ж толькі тагды яно, маўляў, магло-б мець нейкую цэннасьць.

ныя партызанскія аддзелы, якія апэравалі тагды на Беларусі. Урад Беларускай Нар. Рэспублікі, будучы ўжо на эміграцыі ў Літве, высылае да паўстанцаў сваіх прадстаўнікоў і грошы, якія на жаль да адрэсатаў не дайшлі. Палянафільская Найвышэйшая Рада мела пры Радзе Случчыны свайго сталага прадстаўніка. Беларуская Вайсковая Камісія, эвакуаваная з Менску да Лодзі, была прыслаўшы на дапамогу паўстанцам пару дзесяткаў афіцэраў, з ліку якіх, што праўда, пры паўстанцах засталося толькі трох, а рэшта ганебна дэзэртыравала. Беларуская-ж жаноцкая арганізацыя ў Горадні прыслала Слуцкаму палку палкавы сьцяг з вышытымі на ім словамі прысьведчаньня — „Тым, якія першымі паўсталі і пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына“.

Ня гледзячы на такое агульнае спачуцьцё з боку арганізаваных і нат неарганізаваных беларусаў, ня гледзячы на самаахвярнасьць і геройства самых паўстанцаў, Паўстаньне гэтае ўсё-ж такі было задушана шмат пераважаючымі сіламі бальшавіцкай арміі.

Мы, сацыялістычная беларуская моладзь, з асаблівай пашанай адносімся да Слуцкага Паўстаньня, якое адбывалася пад кіраўніцтвам нашых таварышоў сацыялістаў. (большасьць сяброў Рады Случчыны і яе Прэзыдыюму з старшынёй У. Пракулевічам на чале належылі да Слуцкай арганізацыі Беларускай Партыі Сацыялістаў Рэвалюцыянэраў), што, бязумоўна, не магло ня ўплынуць і на самы дух паўстаньня, яго мэты. Як гэта выяўляецца з дэкларацыі Рады Случчыны, паўстаньне ставіла сабе задачай ня толькі адбудаваньне палітычнае незалежнасьці Беларусі, але адначасна імкнулася завясьці на Беларусі такія сацыяльныя узаемаадносіны, якія выплываюць з аснаўных засадаў сацыялізму.

Сёньня ў 15 я угодкі Слуцкага Паўстаньня мы з пэўнасьцю салідарнасьці ўсяе Трудавой Беларусі кажамо: Слава Слуцкім Паўстанцам і вечная памяць барцом, паўшым у змаганьні!

---

## Вайна ў Афрыцы

У паўночна-ўсходняй часьці Афрыкі, паміж Індыйскім акіянам, Адэнскім залівам і Чырвоным морам, у вадазборніку ракі Нілу, Шэбэлі, Юба ды іх прытокаў, расположана краіна, якая спрадвеку заселяны чорнаскурымі плямёнамі сэміцкага паходжаньня. Лепшыя землі гэтай краіны — Эрытрэя, Самалія, пладародныя раўніны, якія прымыкаюць да мора — яшчэ ў мінулым стагодзьдзі захоплены эўрапэйцамі і абе-

рнуты ў калёніі Італіі, Францыі, Англіі; рэшта абшару вагромністай краіны — Абісінія, пераважна гарыстая, але багатая на розныя выкопнікі — знаходзіцца пад уладаю мяйсцовых князькоў-фэадалаў, на чале якіх стаіць прадстаўнік найстарэйшага князяўскага роду Салямонідаў, буйны фэадал-абшарнік нэгус Гаіле Селасіе І.

Абісінія, як і ўсе іншыя адсталыя краіны Афрыкі, а ў значнай меры таксама Азіі, якія аж да апошняга часу зьяўляліся аб'ектам эўрапэйскай калёніяльнай палітыкі, перажывае сяньня пару адраджэньня, прабуджаецца да новага жыцьця — эўрапэізуецца. Характэрнай асаблівасьцю гэтага прабуджэньня зьяўляецца тое, што яно адбываецца зьверху. Верхнія пласты адстала-прымітыўнага суспольства — фэадальна-абшарніцкая арыстакратыя і аўтарніцтва — сквапна ўзіраюцца на буржуазна-капіталістычную Эўропу; іх вабіць сіла і багацьце новых „князёў“ Эўропы, якія ўладаюць сьветам; успрымаюць і нападабляюць эўрапэйскую цывілізацыю; заводзяць новыя парадкі: фэадалы-абшарнікі абяртаюцца ў капіталістаў-прадпрыемцаў. Нават сам нэгус Гаіле Селасіе, як у мінулым стагодзьдзі японскі мікадо Мэйі, а ў сучаснасьці турэцкі дыктатар Кемаль Атацюрка, ня толькі не пярэчыць эўрапэізацыі краіны, але асабіста прыймае чынны удзел у гэтай вялікай перабудове. Да гэтага змушаюць вонкавыя абставіны, у якіх знаходзіцца Абісінія: з усіх бакоў націскаюць прагавітыя эўрапэйцы, наўкола Абісініі ўсё больш і больш звужаецца жалезнае кола эўрапэйскага імпэрыялізму; пагражае задушыць у сваіх чэпкіх абоймах. Струхнелы ўжо фэадалізм, з яго адсталасьцю і прымітыўнасьцю, ня можа устаяць пад націскам эўрапэйскага капіталізму; зьяўляецца найвялікшаю перашкодай у справе абароны краіны. І нэгус рашаецца парваць з гістарычнай традыцыяй сваіх продкаў: ён становіцца на чале маладой абісінскай інтэлігэнцыі, якая ўжо ведае Эўропу бо атрымала эўрапэйскае выхаваньне. Праводзіць шэраг рэформаў. У кароткім часе дасягае таго, што занядбана было у цягу стагодзьдзяў: Абісінія становіцца ў шэрагі цывілізаваных народаў Эўропы. Мяйсцовыя князькі-фэадалы, якія аж да апошняга часу самаўладна панавалі, прызнаючы нэгуса толькі як прадстаўніка найстарэйшага князяўскага роду — мелі свае законы, суды, свой скарб і сваё войска — злучаюцца пад уладаю Гаіле Селасіе, як адзінага цара Абісініі. Прабуджаецца патрыётызм і нацыянальная сьведамасьць. Абісінія абяртаецца ў эўрапэйскую дзяржаву: мае свайго прадстаўніка у Лізе Нацый і добра азброеную армію...

Усё гэта адбываецца ў той час, калі італьянская ўлада, пачынаючы з вясны сёлетняга году, рашыла зьбіраць свае узброеныя сілы на узьмежжы Абісініі, выразна даючы знаць усяму сьвету, што ў не

далёкай будучыне мае на мэце „пашырыць прастор пад сонцам для італьянскага народу".

Італьянская акцыя ў Афрыцы узбудзіла вялікую трывогу ў Англіі, якая зацікаўлена ў тым, каб і надалей захаваць „існуючую раўнавагу эўрапэйскага панаваньня у афрыканскіх калёніях". Тым больш устрывожылася англійская ўлада, калі італьянскі дыктатар Бэніто Мусоліні абвесьціў мабілізацыю „чорных кашуль" (усіх фашыстаў Італіі) і 2-га кастрычніка на пляцу ў Рыме сказаў да іх прамову: „Слухайце мяне ўсе італьянцы! Ужо некалькі месяцаў верціцца кола гісторыі пад уплывам нашай волі дасягнуць пастаўленай мэты. У апошнія хвіліны рух кола гісторыі прысьпяшаецца і нельга ўжо яго затрымаць." На другі дзень раніцай гэнэрал дэ Боно, галоўнакамандуючы італьянскім войскам у Афрыцы, выдаў загад: „Надыйшоў чаканы дзень! Яго дастойнасьць кароль і правадыр загадываюць, каб войска перайшло граніцу". — Праз некалькі дзён італьянскія войскі амаль бяз бою захапілі абісінскія месты Адіград, Адуа і Аксум. — У Абісініі ў гэты час адбываецца мабілізацыя ўсіх здольных насіць аружжа; абвяшчаецца вызвальнае змаганьне проці нападу чужынцаў. На дапамогу Абісініі сьпяшаць калёніяльныя народы Афрыкі і Азіі; нават сярод нэграў у Амэрыцы чутны галасы пратэсту супраць эўрапэйскага імпэрыялізму; арцанізуюць атрады дабравольцаў, якія накіроўваюцца ў Афрыку, каб стаць у шэрагі змагароў за волю і незалежнасьць Абісініі. Над Афрыкай уздымаецца вялікая бура. Вайна Італіі з Абісіняй можа абярнуцца ў вайну расавую, у паўстаньне каляровых народаў супраць белых эўрапэйцаў, у вялікую вызвальную рэвалюцыю калёніяльных народаў.—Гэта, якраз і непакоіць Англію, багацьце і моц якой закладаецца на калёніяльным панаваньні. Усе спробы англійскай дыплёматыі, каб устрымаць Італію ад неразважнага кроку, ня мелі посьпеху. Не памагае і ўмешацельства Францыі. На палёх Абісініі ужо ад даўжэйшага часу гавораць пушкі і кулямёты; адбываюцца падзеі, якія аплоджаны далёкасяглымі вынікамі.

Але афіцыяльна вайна ня была абвешчана. Абісінія, як сябра Лігі Нацый, зьвярталася ў Раду Лігі Нацый з пратэстам проці ўзброенага нападу Італіі, якая таксама зьяўляецца сябрам Лігі Нац. Згодна статуту Лігі Нацый, які зьяўляецца асноваю сучаснага міжнароднага права, усе ўзброеныя канфлікты паміж яе сябрамі вырашаюцца ў той спосаб што проці дзяржавы, якая нападае, ўстанаўліваюцца санкцыі—гаспадарчы байкот. І вось, як гэта мо' і нядзіўна, Ліга Нацый у гэтым выпадку апраўдала сваё прызначаньне: прызнаўшы Італію за напасьніка, устанаўлівае санкцыі супроць яе.

Санкцыі проці Італіі прыняты ўсім паступовым грамадзянствам Эўропы і Амэрыкі. Далучылася да гэтага таксама італьянская эміграцыя. „Giustizia e Liberta“, орган дэмакратычнае думкі рашуча абвяшчае: на Абісінію напаў не італьянскі народ, але фашызм, той самы, які з ваўны нарадзіўся і ізноў вяртаецца да вайны“. У справе санкцыяў заяўляе: „Тут якраз і пачынаецца наша заданьне — мусімо ўнутры Італіі арганізаваць нашы санкцыі, санкцыі італьянскага народу. Ад усяго цывілізаванага сьвету, ад міжнароднага пралетарыяту, ад Жэнэвы жадаемо толькі адно: будзьце няўступнымі ў абароне права. Не прызнавайце вайну, ані ваеннай здабычы. Не дапусьціце, каб Мусаліні уцёк з пасткі, у якую сам залез. Рэшта ўсё наша справа, датыча нас, італьянцаў.“ — Уся італьянская эміграцыя рашуча проці вайны з Абісініяй і рыхтуецца актыўна засягнуць у вір падзеяў унутры Італіі, як толькі надойдзе адпаведны часна гэта.

—ш.

---

## „Выясьненьні“

Пад такім загалоўкам выйшла ў Вільні ў ліпні месяцы с. г. беларуская аднаднёўка. Трэба прызнаць, што зьяўленьне на беларускім прэсавым рынку незалежнага друку, хоць-бы нават і ў постаці аднаднёўкі, уносіць пэўнае ажыўленьне ў наша вельмі беднае грамадзкае жыцьцё. Апошняе зьявішча ёсьць цалком зразумелым, бо звычайна ў нас публічная апінія творыцца беларускаю, так сказаць, „казённаю“ прэсай.

Увесь нумар аднаднёўкі „Выясьненьні“ прысьвячаны выключна справам Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, а іменна: прычынам выхаду з яго гр. гр. В. Багдановіча, М. Манцэвіча і б. пасла Ф. Ярэміча. Гэты свой выхад названыя асобы тлумачаць тым, што ў Нац. К-це ў апошнія годы ўсімі справамі узурпатарскі кіравалі хадэкі, ня лічачыся з рэштай сяброў К-ту і што гэтая хадэцкая дыктатура стала ўрэшце зусім немагчымай.

Што Бел. Нац. Кам. у Вільні ўжо даўжэйшы час ня ёсьць агульна-беларускай рэпрэзэнтацыяй, аб гэтым мы ведалі даўно, але някі час маўчалі. Маўчалі не дзеля таго, што з такім станам рэчаў пагаджаліся, а толькі з тактычных мяркаваньняў. Калі б мы год таму назад ці болей такім языком загаварылі аб Нац. К-це, то нават

сёньняшнія „ізгнаньнікі“ з Камітэту маглі-б нас тагды абвінавачваць у падкопваньні „адзінай агулна-беларускай рэпрэзэнтацыйнай установы“. Цяпер справа стаіць зусім іначай. Цяпер мы можам паўней сьцьвердзіць, што сучасны Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні, як беларуская агульна-рэпрэзэнтацыйная установа, ёсьць міт. Але аднаго толькі сьцьверджаньня мітычнасьці Бел. Нац. К-ту — замала. Беларускі чытач, бязумоўна, захоча ведаць, пашто гэтая нерэальна існуючая рэпрэзэнтацыя хадэкам была і ёсьць патрэбнай. Вось-жа, для хадэцыі мець у руках, хаця-б і не фактычную, рэпрэзэнтацыйную установу ёсьць вельмі важна. Хадэкі на ўвесь сьвет гэтым паказываюць, што яны адны кіруюць у Зах. Беларусі арганізаваным беларускім жыцьцём. Хто ж з нехадэкаў могбы згадзіцца, каб прыкл. інж. Клімовіч прадстаўляў беларусаў на апошнім кангрэсе нацыянальных меншасьцяў?! — Але гр. Клімовічу з апініяй „нехадэцкай“ нечага было лічыцца, бо яго на кангрэс пасылаў Нац. Кам. і ён мог з спакойным сумленьнем выстаўляць сябе як рэпрэзэнтанта арганізаваных беларусаў у Зах. Беларусі.

Далей хадэкам карысна мець Нац. Кам, у сваіх руках, і з тэй прычыны, што ёсьць чым пахваліцца перад сваімі літоўскімі сябрамі, ад распалажэньня каторых залежыць уся іхняя храбрасьць і пыха.

Як гэта ня дзіўна, Нац. К-т, хаця-б мітычны, патрэбны быў і для некаторых сёньняшніх апазыцыянэраў хадэцыі. Той самы Ф. Ярэміч у 1930 г. ніколі не папаў-бы на пасольскае крэсла, каб не Украінска-Беларускі выбарны блёк, створаны толькі дзякуючы ўладаньню такой інстытуцыяй, як Нац. К-т.

Прыгледзімся бліжэй да „Выясьненьняў. Гр. Манцэвіч ў сваёй стацьці адкрыта заяўляе, што ён у Нац. К-це не прадстаўляў ніякае арганізацыі, а быў уведзяны туды самымі хадэкамі, якія далі яму мандат ад свае часопісі „Самапомач“. Мітычнасьць Нац К-ту відаць тут як на далані. Хадэцыі трэба было ўсім зрабіць акуляры, паказаць, што Нац. К-т рэпрэзэнтуе сабою ўсё бел. арганізавае грама дзянста, што вось, маўляў, гр. Манцэвіч, вядомы дзеяч ТБШ. знаходзіцца ў К-це і нават у яго прэзыдыюме.

Далей ідзе адказ гр. Ф. Ярэміча бел. хадэцыі, у якім аўтар стараецца ачысьціць сябе ад закідаў хадэцыі, ў зьмене папярэдняй яго арыянтацыі на польскую. Гр. Ярэміч між іншым кажа, што ён, „будучы паслом у польскім Сойме бараніў агульных беларускіх справаў ня дзелячы іх на партыі ці групы, бараніў так, як мог, і як умеў і як можна было“. Тут трэба з гр. Я. цалком згадзіцца: ён „бараніў як

мог і як умеў". Апрача таго трэба яшчэ сказаць, што калі хто вялікае палітычнае мудрасьці за гр. Ярэмічам і не прызнае, дык затое мусіць прызнаць яму не абы-якую спрытнасьць. Гэта-ж, пачынаючы ад 1922 г. і аж да зьмены выбарнай ардынацыі гр. Я-ч зьяўляўся „вечным" паслом польскага Сойму, чаго не удалося нікому іншаму з беларусаў. Пры выбарах у 1930 г., калі слабыя былі надзеі на беларускія галасы, гр. Я-ч здалеў прайсьці галасамі украінскімі, а сёньня, калі яго пасольская роля цалком скончылася, дастаў добра платную дзяржаўную пасаду. Яшчэ большым акажыцца спрыт гр. Ярэміча, калі зауважым, што ў нас безработнымі ходзяць ужо па некалькі год беларусы з тытуламі дахтароў і інжынераў. Магчыма, што, каб, здабыць такую-сякую працу, перш ім трэба было-б адбыць яшчэ пасольскую практыку.

Адносна-ж арганізацыйнае работы б. пасла Ярэміча сярод сваіх выбаршчыкаў, дык аб ёй можна судзіць хоць-бы на падставе, што увесь „Сялянскі Саюз" складаецца з аднэй яго асобы, як гэта выявілася на паседжаньні Нац. К-ту 12.IV г. г.

Трэйцім дзеячом, выступіўшым з Нац. К-ту ёсьць гр. В. Багдановіч, які прадстаўляў у ім „Бел. Праваслаўна-Дэмакратычнае Аб'еднаньне". Дзейнасьць гр. Багдановіча на полі гэтай арганізацыі, роўна як дзейнасьць самога „Аб'еднаньня — беларусам мала ведамыя. Беларускаму грамадзянству гр. Багдановіч больш ёсьць знаны як духоўны дзеяч праваслаўнай Рускай Патрыяршай Царквы у Польшчы, якая не прызнала аўтокефаліі. Характэрным у гр. Б-ча, як грамадзкага дзеяча, ёсьць той мамэнт, што ў яго беларускае пытаньне не разьмінаецца ні ў чым з пытаньнем агульна-рускім. Дзіўна толькі адно, што бел. хадэцыя, якая адносна ўсходу ці то бальшавіцкага, ці наогул рускага, акрэсьліла сабе як антаганіста, і выявіла сябе як тыповую заходніцкую беларускую арганізацыю, да гэтага часу аднак супрацоўнічала з напалову рускім і напалову белерусам В. Багдановічам. У „Выясьненьнях" аб гэтым цікавым зьявішчы нічога не гаворыцца. На нашу думку гэткаю кааліцыю з гр. Багдановічам можна было-б прыраўняць да супольнай падарожжы выпадкова знаёмых. Хадэкі, як ведама, ёсьць самымі заўзятымі літвафіламі, а заснованая гр. Багдановічам „Праваслаўная Патрыяршая Царква" безпасрэдна падпарадкавана праваслаўнаму архірэю. які знаходзіцца ў Коўне.

# Ліст у Рэдакцыю

Ня так даўно наша рэдакцыя атрымала ліст, падпісаны „Гуртком Прыяцеляў часопісі „Золак“ у Латвіі“. Ліст цікавы, але дзеля нястачы мейсца толькі коратка падамо яго зьмест. Пачынаецца ліст наступнымі славамі:

„Дарагія Сябры! Дачуўшыся, што Вы ў Вільні зьбіраецеся далей выдаваць „Золак“, мы вельмі абрадаваліся і сьпяшымо Вас, Сябры, павіншаваць ад шчырага сэрца. Чым часьцей „Золак“ будзе выходзіць і чым болей будзе ў беларусаў такой прэсы, тым хутчэй беларускі рух зможа ўстаць на свае ўласныя ногі.“

Далей у лісьце гаворыцца, што беларуская моладзь у Латвіі апошнімі часамі пачала сур‘ёзна цікавіцца народніцкім сацыялізмам дый што гэта зацікаўленьне настолькі пашырылася, што ўстрывожыла „старэйшых беларускіх дзеячоў“ у Латвіі, якія пачалі зазываць да сябе беларускую перадавую моладзь і расказваць ёй розныя небыліцы, каб ачарніць выдатнейшых дзеячоў беларускага народніцкага сацыялізму, а гэтым здыскрэдытаваць і самы сацыялістычны кірунак. Аднак моладзь, як відаць, перарасла сваіх „старэйшых“ грамадзян і ў большасьці з агідаю адняслася да такога спосабу барацьбы.

Нашыя сябры ў Латвіі запэўняюць час. „Золак“ у маральным з іх боку падтрыманьні, дэкляруючы адначасна і помач матэр‘яльную.

„Цык наперад -- усё пераможам!“ — заканчываюць свой ліст нашы латвійскія сябры.

Рэдакцыя „Золака“ шчыра выказвае сваю удзячнасьць „Гуртку Прыяцеляў у Латвіі“ за прывітаньне і добразычлівасьць. З свайго-ж боку „Золак“ са ўсею станоўкасьцю заяўляе, што распачатую ім працу будзе весьці і далей у тым-жа кірунку, не спыняючыся ні перад якімі труднасьцямі.

---

Рэдактар-выдавец: А. Аніська.
Адрэс рэдакцыі: Вільня, в. Пакой 6—5.

Druk. „Działowa“ Wilno, Zamkowa 16.